№ 68 (4013)

1 верасня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Сёння за парты школ, гімназій, ліцэяў у Беларусі селі больш за 960 тысяч навучэнцаў.



**СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ**

# Урачыстасць без... беларускага слова

*Учора Аляксандр Лукашэнка разам з міністрам адукацыі Міхаілам Жураўковым і старшынёй Мінгарвыканкама Андрэем Шорацам прысутнічаў на ўрачыстай лінейцы ў мінскай сярэдняй школе №56, што ў мікрараёне “Каменная Горка”. На паказальным канцэрце выступалі ансамблі дзіцячай творчасці, а на ўваходзе ў школу была арганізавана выстава дзіцячых малюнкаў. А што засталося за шырмаю свята?*





...Ля ўваходу на пляцоўку, дзе адбывалася лінейка, усіх наведвальнікаў абшуквалі спецслужбы з сабакам, прасілі адчыніць торбы. Толькі пасля гэтай стандартнай працэдуры магчыма было патрапіць у школу. Так сярод прысутных аказалася і я.

Пасярэдзіне пляцоўкі – трыбуна. Бацькоў з кветкамі адціскалі ад яе сем супрацоўнікаў аховы прэзідэнта, пакуль той быў унутры будынка. Вокны жылых дамоў навокал шчыльна зачынены, хоць на вуліцы і спёка – больш за 25 градусаў.

Пакуль усе чакаюць прамовы прэзідэнта, падыходжу да дзвюх школьніц у прыгожай форме.

**Ангеліна і Саша** – старэйшыя дзеці ў шматдзетных сем’ях, абедзве навучаюцца ў 10 “В” класе. Яны мараць аб тым, каб школа дапамагла ім якасна падрыхтавацца да паступлення ва ўніверсітэт, дала неабходныя веды. А маці першакласніка Багдана **Алена Якаўчук** падкрэслівае: *“Нам вельмі падабаецца стаўленне дырэктара да сваёй справы, ён вельмі працавіты чалавек”*. Бацькі першакласніка Юры і шасцікласніцы Яны, якія не пажадалі называць свае прозвішчы, наадварот, не задаволены пэўнымі тэхнічнымі дэталямі. Тата школьнікаў абураны тым, што ўжо ў першыя дні ў школе, паводле яго слоў, “*зламаўся прынтар*”. Маці дадае: *“Нам вельмі не хапае школы ў нашым мікраранёне “Каменная Горка-3”!”*

Але, вядома, колькі бацькоў – столькі меркаванняў. Шматдзетная мама **Алеся Ціханкевіч** гаворыць: *“Мы хочам, каб дзеці ў школе атрымлівалі такі аб’ём ведаў, каб не вучыць дома табліцу складання і літары”*. Сапраўды, жанчыну можна зразумець – сёлета яна аддала ў першы клас сваю трэцюю дачку, часу на хатнія заняткі можа проста не хапаць з-за гаспадарчых спраў.

...Тым часам з будынка школы выйшаў Аляксандр Лукашэнка ў атачэнні як мінімум пяці ахоўнікаў. “А это, я так понимаю, родители?” – задаў натоўпу бацькоў крыху дзіўнаватае пытанне прэзідэнт. Прамаўляў ён па-руску, жадаючы дзецям і іх бацькам шчасця ў новым навучальным годзе. У прамове Лукашэнка падкрэсліў, што на школу былі затрачаны велізарныя бюджэтныя сродкі і *“сегодня очень важно обеспечить школьников всем необходимым – у каждого должны быть учебники, тетради, школьные принадлежности”*. Між іншым, маці чацвярых дзяцей **Святлана В**. сказала карэспандэнту “Народнай Волі”, што аддала амаль чатыры мільёны, каб падрыхтаваць сына-першакласніка да 1 верасня.

Я пагутарыла з маладым беларускамоўным сацыяльным педагогам **Дзмітрыем Ігаравічам Цярэнцьевым,** які сам не так даўно скончыў універсітэт па спецыяльнасці “настаўнік беларускай мовы і літаратуры”. *“Мяне натхняе тое, што гэта школа новага ўзору, якая мусіць якасна адрозніваецца ад стэрэатыпных навучальных устаноў. Тут ёсць магчымасці для развіцця рознабаковых здольнасцяў вучняў. Гэта своеасаблівы культурна-адукацыйны комплекс для ўсяго раёна*”, – сказаў малады настаўнік.

Класны кіраўнік 1 “Б” **Ніна Іванаўна Ягорава** з радасцю чакае пачатку заняткаў: “*Я ўжо ўбачыла свой клас – цудоўныя, падрыхтаваныя, разумныя дзеткі са святлом у вачах! У нас усё атрымаецца!*” У класе Ніны Іванаўны 32 вучні пры норме для малодшай школы 22–24 чалавекі.

...Кветкі ўручаны настаўнікам, прэзідэнт скончыў прамову, картэж ад’ехаў: афіцыйная частка лінейкі завершана. З двароў пацягнуліся шэрагі супрацоўнікаў міліцыі і людзей у цывільным з рацыямі; сапёрная брыгада выйшла з будынка школы...

Першакласнікі фатаграфуюцца з падарункам прэзідэнта – кнігай-альбомам “Беларусь – наша Радзіма”. На вокладцы – Нацыянальная бібліятэка. Унутры – асноўныя звесткі пра нашу краіну з маляўнічымі выявамі, сярод здымкаў і каляровае фота Аляксандра Лукашэнкі падчас прыняцця прысягі ў 1994 годзе..

За ўвесь час урачыстасцяў я не пачула ад выступаючых ніводнага беларускага слова. Як не пачула нічога і з вуснаў Міхаіла Жураўкова і Андрэя Шораца.

**Кацярына АНДРЭЕВА.**

**КИЕВ: КРОВАВЫЙ ПОНЕДЕЛЬНИК**

# Взрывы под Верховной Радой

*В столице Украины опять беспорядки. На одной из центральных площадей Киева вчера вновь пролилась кровь, есть убитые, десятки раненых...*



Вчера около Верховной Рады раздалось 6–7 взрывов, один из них, прогремевший непосредственно возле здания парламента, был очень мощным. Взрывы прогремели во время столкновений между митингующими, выступавшими против внесения изменений в Конституцию по децентрализации власти, и правоохранителями.

Митингующие бросали в милицию дымовые шашки и камни, пытаясь прорваться через кордон. Сразу после взрывов милиция выстроилась в 6 рядов и оттеснила митингующих от эпицентра столкновений. Вся площадь была в дыму. В результате взрывов, как заявил “Громадське ТВ” мэр Киева Виталий Кличко, погиб один из правоохранителей. Ранения получили более 50 человек, заявила глава пресс-службы Нацгвардии Светлана Павловская. Четверо получили тяжелые ранения. В пресс-службе Радикальной партии, сторонники которой в том числе были в толпе митингующих, заявили о 40 раненых, из них 20 – в тяжелом состоянии. Как сообщил народный депутат, советник главы МВД Антон Геращенко, взорвалась боевая граната, которую бросили в правоохранителей. По его словам, взрыв был спланирован заранее.

Еще перед взрывом правоохранители задержали самых активных участников столкновений, но кто взорвал гранату, не известно.

Некоторых пострадавших уносили с места ЧП на щитах. Карет «скорой помощи» не хватало, людей забірали прямо в патрульных автомобилях полиции. На асфальте после взрывов осталось много крови, лежали палки и огнетушители.

**ПАД ГРАДУСАМ**

## Урэшце дажджы

Ужо ў сераду ў асобных раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Аднак горача. Тэмпература ноччу плюс 13–20°С, днём плюс 27–34°С, па поўдні плюс 35–36°С, па паўночным захадзе месцамі плюс 21–26°С. «У чацвер праз краіну будзе праходзіць халодны атмасферны фронт, следам за якім пачне паступаць халаднаватая і вільготная паветраная маса, якая прынясе паніжэнне тэмпературы паветра», – паведаміў БелаПАН начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя **Дзмітрый Рабаў**.

У чацвер месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ноччу плюс 11–17°С, днём плюс 18–24°С; па паўднёвым усходзе краіны яшчэ цёпла, там ноччу плюс 18–20°С, днём плюс 25–29°С.

У пятніцу месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ноччу плюс 7–14°С, днём плюс 17–24°С; па паўднёвым усходзе захаваецца цёплае надвор’е: ноччу плюс 15–16°С, днём плюс 25–26°С.

«У першыя восеньскія выхадныя захаваецца свежае надвор’е», – адзначыў сіноптык.

У суботу месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ноччу плюс 7–14°С, днём плюс 17–24°С; па паўднёвым усходзе ноччу плюс 15–16°С, днём плюс 25–26°С.

У нядзелю месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы.

**ПАСТФАКТУМ**

## Ці прыслухаецца Цэнтрвыбаркам да чарговай прапановы грамадскасці?

Грамадская камісія па ацэнцы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты Беларусі **Таццяны Караткевіч** распаўсюдзіла ўчора заяву, сэнс якой у тым, што подпісы праверыць немагчыма.

У заяве гаворыцца, што выбарчы штаб Таццяны Караткевіч спачатку афіцыйна пацвердзіў сваю згоду прадаставіць камісіі неабходныя подпісы, а ў выніку фактычна адмовіў у праверцы копій усіх здадзеных у тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі 107.299 подпісаў. Са штаба Караткевіч прыйшоў адказ, што яны могуць прадаставіць абмежаваную колькасць подпісаў – не болей за 70.000–80.000. У сувязі з гэтым, вынікае з заявы, грамадская камісія лічыць немагчымым праверыць колькасць і сапраўднасць подпісаў, а таксама звяртаецца ў ЦВК *«з патрабаваннем правесці пералік і праверку подпісаў усіх прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду прэзідэнта ў прысутнасці незалежных назіральнікаў, акрэдытаваных пры тэрытарыяльных выбарчых камісіях»*.

Ці прыслухаецца ЦВК да чарговай прапановы грамадскасці? Як вядома, на мінулым тыдні Лідзія Ярмошына ўжо выказвалася пра ініцыятыву некаторых прадстаўнікоў руху “За Свабоду” праверыць подпісы Таццяны Караткевіч. Ярмошына назвала стварэнне грамадскай камісіі “*несусветным глупствам*”, “*парушэннем закона*”.

Як вядома, ЦВК завершыць падлік колькасці подпісаў за прэтэндэнтаў у прэзідэнты не раней за 5 верасня, а іх вынікі абвесціць 10 верасня падчас рэгістрацыі кандыдатаў.

**Шаноўныя сябры!**

Дзякуй Вам за тое, што Вы азнаёміліся з матэрыяламі гэтага нумара “Народнай Волі”. Упэўнены, Вам ёсць што сказаць. Адгукніцеся! Мы выслухаем вашы заўвагі, меркаванні, улічым прапановы! І будзем удзячны, калі Вы падкажаце новыя тэмы, адрасы герояў будучых публікацый.

Звязвайцеся з намі, калі ласка, па электроннай пошце **(nvonlineinfo@gmail.com) альбо па тэл. 328-68-71.**

**Рэдакцыя газеты “Народная Воля”.**

**ДЗЕ ГЭТА ВІДАНА!..**

# Як Аляксандр Лукашэнка ўцёр нос Яфрэму Сакалову

Якія толькі дзівосы не адбываюцца ў нашай Беларусі! Гэта ж трэба: прэзідэнт краіны публічна ўцёр нос былому першаму сакратару Брэсцкага абкама кампартыі, а затым першаму сакратару ЦК Кампартыі Беларусі Яфрэму Сакалову.

З мінулай пятніцы ўсе тэлеканалы круцяць сюжэт пра сустрэчу А.Лукашэнкі з калектывам адкрытага акцыянернага таварыства “Белавежскі” Камянецкага раёна. Задаволены ён сённяшнімі вынікамі работы гэтай гаспадаркі. Як задаволены і тым, што “Белавежскі” ўзяў на буксір суседні калгас “Советская Белоруссия” (у апошні час ён лічыўся сельскагаспадарчым кааператывам).

Той, хто некалі цікавіўся вясковымі справамі, у шоку: як магло стаць, што “Советская Белоруссия” аказалася настолькі ў адсталых, што яе давялося браць на буксір? За што тады яе нязменнаму старшыні Уладзіміру Бядулю начапілі спачатку адну залатую зорку Героя Сацыялістычнай працы, а потым і другую? Пры гэтым да паўторнага ўзнагароджання Бядулі зоркай Героя меў прамое дачыненне тагачасны першы сакратар Брэсцкага абкама партыі Яфрэм Сакалоў. Без яго пахвальных характарыстык не маглі зацвердзіць такое рашэнне ў Крамлі.

Але ж колькі шыла ў мяшку ні хавай, яно вылезе на паверхню. Так атрымалася і з калгасам “Советская Белоруссия”. За пустазвонствам, схільнасцю да паказухі, уменнем прыгожа сустрэць высокіх гасцей і зачараваць іх за багатым сталом у Белавежскай пушчы хавалася звычайная бездапаможнасць ва ўкараненні перадавых сельскагаспадарчых тэхналогій, рынкачных адносін. Адзіная галіна, у якой калгас меў нейкі поспех, – гэта бульбаводства. І то калі, скажам, у калгасе імя Кірава Пінскага раёна тады збіралі з 420 гектараў на круг па 360 цэнтнераў клубняў, то ў “Советской Белоруссии” і блізка не набліжаліся да такога валавога збору. А што тычыцца збожжавых культур, то гаспадарка Бядулі ніколі не ўваходзіла ў лік лепшых у краіне. Як і па паказчыках у жывёлагадоўлі. Ды і “лятаючы мужык” (так некалі назваў Уладзіміра Бядулю адзін вядомы маскоўскі паэт) стараўся не паказваць фермы прыезджым гасцям. Не было на што глядзець: звычайныя хлявы без асаблівай механізацыі, з разлікам у большасці на ручную працу даярак, свінарак, даглядчыкаў.

Сустракаў Бядуля гасцей у Доме культуры, дзе месціўся, як падкрэслівалася, першы ў СССР Музей хлеба. І, вядома ж, побач – рэстаран, у якім гасцей даводзілі да кандыцыі, каб ім не хацелася лезці ў гной, а лепш выехаць у Пушчу і там, таксама за багатым сталом, працягнуць гаворку і падыхаць белавежскім водарам.

Калі нарэшце двойчы Героя Сацыялістычнай Працы У.Бядулю з цяжкасцю ўдалося адправіць на пенсію, усім стала вядома, які пыл пускаў ён у вочы высокім гасцям і тым, хто яму вешаў адну зорку Героя за другой. У мінулую пятніцу я вечарам глядзеў “Панараму”. У сюжэце пра наведванне “Белавежскага” Аляксандр Лукашэнка расказваў, як ён аднойчы не паленаваўся і сам, ужо пасля сыходу Бядулі з “Советской Белоруссии”, зазірнуў ў яго кароўнікі, цялятнікі, свінарнікі: гною па калена, умовы для работы людзей жудасныя... Вось чаму і вырашана было далучыць калгас, які сорак гадоў узначальваў Уладзімір Бядуля, да ААТ “Белавежскі”. І, як сведчылі ў “Панараме” вяскоўцы, гэта выратавала іх ад заняпаду. Калі да аб’яднання, у 2010-м, сярэдні заробак у былым калгасе складаў 651 тысячу рублёў, то ў першы год пасля далучэння – 1,3 мільёна рублёў, а летась – 5,3 мільёна рублёў. Ураджайнасць збожжавых падскочыла з 33 цэнтнераў амаль да 55. Непараўнальныя лічбы і ў жывёлагадоўлі.

Так, Аляксандр Лукашэнка, праходзячы са світай па чысценькім, тэхналагічна сучасным жывёлагадоўчым комплексе, што побач з вёскай Расна, якая раней была цэнтрам калгаса “Советская Белоруссия”, прадэманстраваў таму ж Яфрэму Сакалову стыль колішняй работы, калі ён разам з крамлёўскімі старцамі вешаў зоркі не за сапраўды высокі ўзровень работы, не за рэкордныя дасягненні ў вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі, не за наватарскія падыходы ў развіцці аграпрамысловай галіны, а за пыл, які маглі пускаць у вочы Бядуля і яму падобныя.

**Казімір МАЦКЕВІЧ.**

**Дарэчы**

Заўважым: Яфрэм Сакалоў таксама з’яўляецца Героем Сацыялістычнай працы. Болей таго, па спецыяльным указе А.Лукашэнкі ён адносіцца да ліку тых былых партыйных і савецкіх функцыянераў, якія сёння атрымліваюць надзвычай высокую пенсію і пэўныя льготы. Калі, напрыклад, у экс-старшыні Вярхоўнага Савета 12-га склікання Станіслава Шушкевіча сёння пенсія ў межах паўдолара, дык у Яфрэма Сакалова, можна меркаваць, яна прыкладна ў тысячу разоў большая.

**ВЕДАЙ НАШЫХ!**



## Марына АРЗАМАСАВА: «Падбегла да трэнера і спыталася: ці не сон гэта?..»

Беларуская лёгкаатлетка Марына Арзамасава стала чэмпіёнкай свету ў бегу на 800 метраў з вынікам 1:58,03. Гэта адзіны залаты медаль беларускай зборнай на прайшоўшым у Кітаі сусветным першынстве.

На вялікі жаль, не ведаю дакладна, з якімі думкамі і планамі адлятала ў Пекін Марына Арзамасава. Не хацеў турбаваць спартсменку сваімі пытаннямі напярэдадні першынства, адрываць ад галоўнага. Але ў глыбіні душы верыў, што ўсё ў яе атрымаецца.

Марына – працавітая, адкрытая, прыгожая і пры гэтым неверагодна сціплая дзяўчына. Яна шчыра любіць тую справу, якой займаецца, і аддае лёгкай атлетыцы ўсю сябе. Можна сказаць, жыве спортам.

Яна, здаецца, як ніхто іншы *(ні ў якім разе не хачу пакрыўдзіць Аліну Талай, якая заявала ў Пекіне бронзу. –* **Аўт.***)*, заслужыла гэтае першае месца.

Праўда, сама Марына не адразу паверыла, што стала чэмпіёнкай свету. Вось што расказвала дзяўчына аб эмоцыях, якія перапаўнялі яе адразу пасля “залатога” фінішу:

– *Падбегла да трэнера і запыталася: ці на самай справе гэта адбылося са мной альбо мне прысілася? Яна сказала, што гэта насамрэч адбылося са мной. Канечне, я хвалявалася, але хваляванне было, што называецца, не на мяжы. Я так марыла пра гэты медаль! Залаты медаль!*

На сваёй старонцы ў адной з сацыяльных сетак Марына размясціла ўласнае фота з залатым медалём сусветнага першынства і кароткі подпіс: “Вось яна, мая мара, маё жыццё і мая радасць!..”

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ФУТБОЛ



# Чароўная восень

*Мінскае "Дынама" і барысаўскі БАТЭ зрабілі балельшчыкам цудоўны падарунак.*

На мінулым тыдні стала вядома – і БАТЭ, і "Дынама" патрапілі ў групавыя стадыі еўракубкаў. А гэта азначае, што цікавы футбол восенню гарантаваны!

Нагадаем, у плэй-оф барысаўчане па выніку двух матчаў перамаглі сербскі "Партызан". Жараб'ёўка, якая прайшла ў Манака, вызначыла барысаўчанам сур'ёзных супернікаў па групе – гэта іспанская **"Барселона"**, нямецкі **"Баер"** з Леверкузена і італьянская **"Рома"**.

Прадстаўляць гэтыя каманды аматарам футбола няма патрэбы. Ды і барысаўчане на сваім горкім вопыце ведаюць, як гуляе "Барса". У групавым этапе сезона 2011/2012 БАТЭ двойчы прайграў "Барселоне" – 0:5 на сваім полі і 0:4 – у Іспаніі. Месі, Неймар, Суарэс... Што ні футбаліст, то зорка!

"Баер" і "Рома" – таксама не падарунак лёсу. У мінулым годзе ў Лізе чэмпіёнаў італьянская каманда, напрыклад, як з дзецьмі, разабралася з маскоўскім ЦСКА (5:1), а пра сілу каманд нямецкага чэмпіянату таксама нікому расказваць не трэба.

Адным словам, футбол абяцае быць неперадавальным, а галоўнае пытанне: як БАТЭ будзе супрацьстаяць гэтым еўрапейскім грандам? Ці не стане хлопчыкам для збіцця?

*"Ужо зараз захоплівае дух ад перспектывы новай сустрэчы з вялікім клубам – "Барселонай", ад магчымасці яшчэ раз выйсці на "Камп Ноу",* – сказаў настаўнік барысаўчан **Аляксандр Ермаковіч**. – *Зараней рыхтаваў сябе да таго, што групавы турнір Лігі чэмпіёнаў – свята футбола. Тут ёсць чаму і, галоўнае, у каго павучыцца. Напэўна, няправільна пазіцыяніраваць сябе як прэтэндэнта на выхад з групы. Нам яшчэ, мабыць, рана рабіць такія гучныя заявы. Таму асноўная задача, якая стаіць перад камандай, – быць канкурэнтаздольнымі, шукаць магчымасці паскубці супернікаў, каб паездкі ў Барысаў для іх не былі лёгкай прагулкай... Адзінае, чаго мы вельмі не хацелі, дык гэта сустракацца з краінамі былога СССР. У гэтым плане жараб'ёўка аказалася да нас лаяльнай. І на тым дзякуй!"*

### Каляндар групы «Е»:

**16 верасня.** "Баер"–БАТЭ.
**29 верасня.** БАТЭ–"Рома".
**20 кастрычніка.** БАТЭ–"Барселона".
**4 лістапада.** "Барселона"–БАТЭ.
**24 лістапада.** БАТЭ–"Баер".
**9 снежня.** "Рома"–БАТЭ.

У групавым этапе Лігі Еўропы другі год запар будзе выступаць мінскае "Дынама". І гэта таксама безумоўны поспех каманды!

У плэй-оф у дамашнім матчы мінчане перамаглі аўстрыйскі "Зальцбург" – 2:0, а вось сустрэча ў адказ была поўная драматызму, але са шчаслівым вынікам для "Дынама". У асноўны і дадатковы час аўстрыйцы выйгралі таксама з лікам 2:0, а вось у серыі пенальці не было роўных нашаму варатару Аляксандру Гутару. Гэта быў яго дзень!

На стадыі групавога этапу "Дынама" згуляе з іспанскім **"Вільярэалам"**, чэшскай **"Вікторыяй"** і аўстрыйскім **"Рапідам"**.

Матчы першага тура пройдуць 17 верасня.

**Алесь СІВЫ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Мінскае «Дынама» пакіне КХЛ?

*Такі крок з боку айчынных хакейных функцыянераў можа стаць адказам на тое, што ў Кантынентальнай хакейнай лізе, пачынаючы з бягучага сезона, беларускіх хакеістаў вырашылі лічыць легіянерамі.*

Ізноў наш "адзіны і самы блізкі стратэгічны саюзнік" выкінуў каленца. На гэты раз – на хакейным фронце.

## Гульня без правіл

Днямі ў Расіі ўступіў у сілу загад Міністэрства спорту "Аб зацвярджэнні абмежаванняў на ўдзел спартсменаў, якія не маюць права выступаць за зборныя каманды Расійскай Федэрацыі ва ўсерасійскіх спартыўных спаборніцтвах па відзе спорту "хакей".

Згодна з дакументам, клубам, якія выступаюць у КХЛ і іншых лігах, якія ўваходзяць у структуру Федэрацыі хакея Расіі, дазволена мець не больш за пяць спартсменаў, у якіх няма расійскага пашпарта.

Бяда не ў самім з'яўленні дакумента, які робіць беларускіх хакеістаў легіянерамі ў КХЛ (Беларусь і Расія, як ні круці, – гэта дзве розныя краіны), а ў тым, што беларускіх хакеістаў, якія ўжо заключылі кантрактныя пагадненні з расійскімі камандамі, паставілі па-за законам.

Адразу пасля з'яўлення дакумента клубы КХЛ хуценька сталі пазбаўляцца ад беларусаў. Ніжагародскае "Тарпеда" было вымушана адмовіцца ад паслуг Андрэя і Сяргея Касціцыных, маскоўскі "Спартак" разглядае магчымасць скасавання працоўных кантрактаў з Андрэем Антонавым і Дзмітрыем Корабавым і гэтак далей...

Дарэчы, Дзмітрый Корабаў хоць і выступае за зборную Беларусі, але мае і расійскі пашпарт. Таму ягоны агент **Сяргей Ісакаў** заявіў, што спартсмен гатовы судзіцца з Мінспорту РФ, адстойваючы ўласнае права на працу:

*"У Канстытуцыі РФ ясна сказана, што кожны грамадзянін нашай краіны мае права на працу. Дзмітрый Корабаў мае расійскі пашпарт, з'яўляецца грамадзянінам і па Канстытуцыі мае права на працу, аднак Міністэрства спорту, відавочна, жыве па нейкіх іншых законах і Корабава гэтага права пазбаўляе. Мы гатовы судзіцца з Мінспорту, і я да апошняга буду біцца за правы хаккеістаў. Знойдзем добрага адваката і звернемся ў суд. Сітуацыя проста абсурдная. Калі ў Мінспорту людзі не знаёмыя з Канстытуцыяй, няхай адкрыюць і пачытаюць яе".*

Пакуль складана сказаць, ці дойдзе справа Дзмітрыя Корабава да суда, але сама сітуацыя вакол беларускіх хакеістаў у Расіі нагадвае вядомы выраз: хто плаціць, той і заказвае музыку.

Кантынентальная хакейная ліга – праект, які быў створаны ў Расіі па мясцовых правілах, якія, як высвятляецца, могуць змяніцца ў любы момант. Беларусы, латышы, казахі – гэта проста госці на чужым свяце, якіх з гэтага свята ў любы момант могуць "папрасіць".

Відавочна, што ў Расіі, аб'яўляючы беларусаў і іншых замежных хакеістаў легіянерамі, у першую чаргу дбалі пра развіццё сваіх спартсменаў. Можа быць, нагодай стала ганебнае паражэнне расіян у фінале мінулага чэмпіянату свету ад канадцаў, можа, яшчэ што... Але відавочна таксама і тое, што праблемы беларускай зборнай (а большасць



хакеістаў нашай нацыянальнай каманды гулялі ў КХЛ) хвалююць расіян менш за ўсё. Вось такая "братэрская любоў".

Слабыя апеляцыі беларускага боку да таго, што Расія будуе з Беларуссю "саюзную дзяржаву", пакуль ні да чаго не прывялі. Расіяне сваім стаўленнем да нашых хакеістаў у чарговы раз паказалі эфемернасць гэтага саюзнага ўтварэння, у прыватнасці артыкула 14 Дамовы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, згодна з якім грамадзянам краін-удзельніц Саюзнай дамовы гарантуецца роўнае права на працу.

## «Дынама», на выхад?

Пасля раптоўных змен у хакейным заканадаўстве Расіі беларуская Федэрацыя хакея адрэагавала скліканнем спецыяльнай прэс-канферэнцыі, на якой старшыня ФХ Беларусі **Ігар Рачкоўскі** заявіў:

– Хочам завярнуцца за дапамогай. Падняць грамадскую думку і даць ацэнку падзеям, якія сур'ёзна ўплываюць на развіццё хакея ў Рэспубліцы Беларусь. Мы не можам зразумець захады, якія былі зроблены расійскім бокам.

Старшыня Федэрацыі хакея нашай краіны звярнуў увагу на тое, што правілы гульні ў выглядзе рэгламенту былі прыняты яшчэ ў лютым бягучага года, але зменены перад стартам сезона.

Ігар Рачкоўскі не выключыў магчымасці зняцця мінскага "Дынама" з чэмпіянату КХЛ:

– Безумоўна, паўстане пытанне аб мэтазгоднасці ўдзелу "Дынама-Мінск" у гэтым праекце. Сродкі, якія ўкладаюцца дзяржавай, можна выкарыстоўваць лепш. Гродзенскі "Нёман" стартаваў у Лізе чэмпіёнаў. Ліга цікавая, зараз мы вядзём перамовы аб уступленні ў гэты праект на правах сузаснавальнікаў. Можа, лепш туды заявіць 3–4 нашы каманды і развівацца далей? Гэта я кажу не ў плане нейкай крыўды. КХЛ – цікавы праект.

Рачкоўскі падкрэсліў, што кіраўніцтва Федэрацыі хакея Беларусі знаходзіцца ў кантакце з усімі нашымі хакеістамі, якія засталіся без каманды, і будзе спрыяць іх працаўладкаванню.

Не стаў маўчаць і галоўны трэнер мінскага "Юнацтва" Міхаіл Захараў. Каментуючы новаўвядзенне, ён адзначыў, што Беларусі трэба было б мець дзве каманды ў КХЛ, тады б "усе хакеісты гулялі". Спецыяліст таксама звярнуў увагу на тое, што ў Беларусі наўрад ці ёсць каманды ўзроўню, які патрэбны хакеістам нацыянальнай зборнай краіны.

Як выйсце з сітуацыі, якая склалася, расійскі Мінспорту можа ўнесці ў прынятыя "легіянерскі" дакумент папраўкі, якія дазвалялі б беларусам намінальна не лічыцца іншаземцамі. Але ці пойдуць у Расіі на гэты крок?

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ШАШКІ

# Заслужаная павага

Ёю карыстаюцца ў ФМЖД беларускія спецыялісты. Напрыклад, міжнародны майстар з Мінска Віктар Шульга ўзначальвае Сусветную камісію па шашачнай кампазіцыі. Дзякуючы яе намаганням, стваральнікі задач, эцюдаў і камбінацый павышаюць сваё майстэрства. Удасканальваецца і сам старшыня камісіі, аб чым сведчаць яго новыя творы. Яны вельмі цікавыя і павучальныя і іх карысна разгледзець:



1. **Белыя**: a1, b4, g1, g3, g5, h2, h4 (7).
**Чорныя**: a5, b2, c3, d2, e3, e5, e7, f6 (8).
Gf4, h:d4 (f:h4) gf2, a:e1, ed2, h:f8 (hg3) fc5 (gh2) cg1#.

2. **Белыя**: a1, b4, d6, f4, g1, h2, h6 (7).
**Чорныя**: a5, b2, c3, d2, e5, g3, h4 (7).
Выйгрыш. Пераканайцеся ў гэтым самі.

## Павучальны фрагмент

Яго мы ўбачылі ў партыі чэмпіянату свету сярод жанчын па 100-клетачных шашках.

**Белыя** (Т.Тансыкужына): 23, 24, 28, 29, 32, 33, 34, 36, 38, 43, 45 (11).
**Чорныя** (Е.Дондаў): 2, 3, 8, 13, 15, 16, 20, 21, 25, 27, 31 (11).
1... 31-37 2. 32:41 27-32 3. 38:27 21:32 4. 28:37 25-30 5. 34:14 13-19 6. 24:13 08:48+.

Гэтыя прэстыжныя баталіі ладзіліся ў горадзе Ухань (Кітай). Ва ўпартай барацьбе чэмпіёнкай стала Зоя Голубева (Латвія) – у 15-ы раз! Сярэбраны медаль заваявала полька Наталля Садоўска, бронзавы – Вольга Камышляева (Нідэрланды). Прадстаўніца Беларусі Вольга Федаровіч заняла высокае чацвёртае месца.

Прыемна адзначыць, што Зоя Голубева і Вольга Камышляева маюць беларускія карані, а Наталля Садоўска трэніравалася пад наглядам мінскага гросмайстра Яўгена Ватуціна.

## Турніры ў Слонімскім раёне

Першы з іх па шашках-100 прайшоў у аграгарадку Жыровічы ў гонар Дня вызвалення Слоніма, меў міжнароднае значэнне і быў 6-м па ліку. Пераможцам прызнаны майстар ФМЖД Мікалай Кадзеснікаў (11 ачкоў з 14 магчымых). Такі вынік паказаў і нацыянальны майстар Сяргей Фадзееў, але па дадатковых крытэрыях яму прысуджаны другі прыз. За імі фінішавалі гросмайстар Расіі Іван Касціёнаў (10 ачкоў) і майстар ФМЖД Вера Хвашчынская (9), якая з'яўляецца вучаніцай бабруйчаніна Кадзеснікава.

Другі турнір па шашках-64 прысвечаны памяці ўслаўленых слонімскіх прапагандыстаў старадаўняй гульні М.Крата і братоў Мялешкаў і праведзены ў райцэнтры. Па-за канкурэнцыяй выступіў Яўген Кандрачэнка: гросмайстар з Гомеля набраў 14 ачкоў з 14 магчымых!

Кандыдат у майстры спорту Аляксандр Барташ з Маладзечна заняў другое месца (11 ачкоў), яго калега са Слоніма Віктар Місько – трэцяе (10).

### Праверце рашэнні

**"Дзіцячы трэнер"** (М.Стэфановіч): 1. dc3 2. cd8 3. d:e1 gh4 4. bc3 ed2 5. eg3!x.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

ДАСЛЕДАВАННІ

## Беларусы сярод найменш эмацыянальных народаў свету

Летась даследчыкі амерыканскай кампаніі Gallup папрасілі людзей у 148 краінах адказаць, ці адчувалі яны за папярэдні дзень пяць станоўчых і пяць адмоўных эмоцый. І вось зараз апублікавалі свае высновы.

Пяць негатыўных перажыванняў – гнеў, стрэс, смутак, фізічны боль і трывога. Пяць станоўчых – адчуванне, што ты добра адпачыў/адпачыла, што да цябе ставяцца з павагай, радасць, шмат усмешак і смеху, а таксама адчуванне, што ты вывучаеш ці робіш нешта цікавае.

Найбольш і найменш эмацыянальныя краіны вызначаліся па рэйтынгу сярэдніх паказчыкаў адказаў «так» на ўсе пытанні.

Беларусь падзяліла з Суданам пятае месца ў гэтым даследаванні. Менш эмацыянальнымі за беларусаў аказаліся толькі жыхары Азербайджана, Бангладэша, Грузіі і Манголіі. У дзясятцы найбольш эмацыянальных – пераважна краіны Лацінскай Амерыкі.

МОЗАИКА

## Сергей Веремко будет играть в греческом клубе

*Экс-капитан и голкипер национальной сборной Беларуси по футболу Сергей Веремко продолжит свою игровую карьеру в главном дивизионе Греции – футболист заключил соглашение с «Левадиакосом».*



В июле Веремко расторг контракт с самарскими «Крыльями Советов» и находился в статусе свободного агента.

В сыгранном на прошлых выходных первом туре чемпионата Греции новый клуб Сергея Веремко потерпел поражение от «Атромитоса» (0:1), цвета которого защищает действующий голкипер сборной Беларуси Андрей Горбунов.

В прошлом чемпионате «Левадиакос» занял лишь 15-е место.

## У Максима Мирного – лучший рейтинг за последние 14 месяцев

*В новом парном рейтинге АТП, опубликованном 24 августа, белорусский теннисист поднялся с 36-го на 31-е место.*



Это лучший показатель за последние 14 месяцев – после 23 июня 2014 года. В тот день белорусский теннисист опустился с 24-й на 32-ю строчку.

Сезон-2014 спортсмен закончил на 47-м месте, а худшим был период с 20 апреля по 3 мая 2015 года – 64-я позиция, сообщают naviny.by.

## Получил травму

*31-летний капитан футбольного клуба БАТЭ Виталий Родионов получил разрыв крестообразной связки правой ноги.*

Как сообщает пресс-служба БАТЭ, это случилось в ходе выездного поединка с белградским «Партизаном» в рамках плей-офф Лиги чемпионов.

Сразу после инцидента спортсмен улетел на обследование в Мюнхен. В ближайших матчах БАТЭ Родионов не сможет выйти на поле.

Тем временем борисовский клуб подписал контракт с сербским нападающим **Александром Евтичем**. Предполагается, что он станет подкреплением БАТЭ в еврокубковых матчах и на последнем этапе чемпионата Беларуси.

## Азаренко выпустила свои именные часы

*Их стоимость составляет 495 долларов.*



Белорусская теннисистка **Виктория Азаренко**, которая сейчас занимает 20-е место в мировом рейтинге, выпустила именные часы. Спортсменка является лицом Citizen Watch Company, и именно эта фирма представила часы с именем теннисистки.

Стоимость часов составляет 495 долларов. Их тираж – 2500 экземпляров, информирует pressball.by.

СТОП-КАДР

# Есть медаль!




Алина Талай с национальным рекордом стала бронзовым призером чемпионата мира по легкой атлетике в беге на 100 м с барьерами. ***Мировое первенство проходило в Пекине с 22 по 30 августа.***

СЛЫШАЛИ?

# Матери погибших вступились за обвиняемого

Родственники хоккеистов ярославского ХК «Локомотив», погибших в авиакатастрофе, не одобрили требование гособвинителя назначить обвиняемому Вадиму Тимофееву наказание в виде 6 лет колонии.

Ярославский районный суд 21 сентября вынесет приговор по делу о крушении самолета Як-42 в сентябре 2011 года вблизи аэропорта Туношна под Ярославлем.

Обвиняемым по делу является один из бывших руководителей авиакомпании «Як Сервис» Вадим Тимофеев. Ему инкриминируется нарушение правил безопасности движения и эксплуатации воздушного транспорта, повлекшее по неосторожности смерть более двух лиц.

Ранее гособвинение попросило для подсудимого шесть лет в колонии-поселении. Потерпевшие по делу настаивают на условном наказании.

Самолет Як-42, на борту которого находились игроки и тренеры хоккейного клуба «Локомотив», потерпел крушение 7 сентября 2011 года под Ярославлем. В авиакатастрофе погибли 37 спортсменов и семь членов экипажа, в том числе легендарный белорусский хоккеист Руслан Салей. Выжить удалось лишь бортинженеру Александру Сизову.

Рассмотрение дела началось в декабре 2014 года.

Как сообщает «Интерфакс», мать хоккеиста Артема Ярчука заявила на суде, что вина летчиков разбившегося самолета Як-42 не доказана – следовательно, не может быть признан виновным и Тимофеев. Она попросила вынести обвиняемому приговор, не связанный с лишением свободы.

По ее мнению, следствие не было заинтересовано в объективном расследовании дела, а прокуратура учитывала только те доводы, которые ей интересны.

Аналогичного мнения придерживается и мать хоккеиста Александра Васюнова. Она согласилась с тем, что, возможно, какие-то недочеты в работе Тимофеева и были, но они не могли стать причиной гибели людей.



Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 15068

Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 31.08.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25450 экз. Заказ №3552.